

# БЕЛАРУС

№445 • Чэрвень-Ліпень 1997 г.
Год выд. 46

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00


## ХРОНІКА ІНТЭГРАЦЫІ: 1995-1997

**Юры Дракахруст**

Яшчэ у часе сваей перадвыбарчай кампаніі на пасаду прэзыдэнта Аляксандр Лукашэнка гаварыў аб неабходнасьці узьяднаньня з Расеяй. Ён заўседы падкрэсьліваў, што быў адзіным дэпутатам ВС, які галасаваў супраць Белавескіх пагадненьняў аб скасаваньні СССР. І хаця гэтыя заявы не адпавядалі рэчаіснасьці, яны адлюстроўвалі накірунак думак і дзеяньняў гэтага палітыка — узнаўленьне СССР.

Стаўшы кіраўніком дзяржавы, Аляксандр Лукашэнка пачаў увасабляць свае мары ў жыцьце.

У лютым 1995 году быў створаны Мытны саюз дзьвух краінаў: у абмен на танныя энерганосьбіты Беларусь згадзілася на бясплатны транзіт расейскіх нафты і газу на Захад, а таксама на бясплатнае утрыманьне на сваей тэрыторыі расейскіх ваенных базаў у Ганцавічах і ў Баранавічах. Тады ж, падчас сустрэчы у Менску прэзыдэнтаў Ельцына і Лукашэнкі, былі падпісаная дамова аб адзіным кіраваньні мытнымі службамі і аб сумеснай ахове мяжы ды было заяўлена аб неабходнасьці палітычнай інтэграцыі.

На наступны дзень пасьля візіту Барыса Ельцына ў Менск Аляксандр Лукашэнка заявіў, што Беларусь прыпыняе выкананьне абавязкаў па дамове аб скарачэньні звычайных узбраеньняў у Эўропе.

У весну 1995 году на Беларусі пачалі працаваць прадстаўніцтвы мытнай і памежнай службаў Расеі.

У чэрвені 1995 году у адпаведнасьці з умовамі мытнага саюзу, была ліквідаваная мяжа паміж дзьвума краінамі.

Летам па распараджэньні прэзыдэнта быў спынены вывад зь Беларусі 18 расейскіх ядзерных ракетаў SS-25.

У лютым 1996 году Аляксандр Лукашэнка быў адзіным на сустрэчы лідэраў краін СНД, хто выказаўся супраць прыняцьця заявы аб немагчымасьці узнаўленьня СССР. Тады ж ён упершыню публічна заявіў, што ў выпадку пашырэньня НАТА на Усход Беларусь можа размясьціць на сваей тэрыторыі расейскую ядзерную зброю.

У лютым прэзыдэнты Лукашэнка і Ельцын падпісалі дамову аб так званым «нулявым варыянце», у адпаведнасьці зь якім Беларусь адмаўлялася ад сваей долі за уран з ядзерных баегаловак.

У сакавіку Дзяржduma Расеі прыняла рашэньне аб непрызнаньні Белавескіх пагадненьняў.

Барыс Ельцын, які тады ужо пачынаў перадвыбарчую кампанію, паспрабаваў перахапіць у камуністаў інтэграцыйную ініцыятыву. Тэрмінова быў падтрыхтаваны дакумэнт аб стварэньні глыбока інтэграванага Саюзу Беларусі й Расеі.

2-га красавіка у Крамлі ва ўрачыстай абстаноўцы была падпісаная дамова аб стварэньні Супольнасьці Беларусі й Расеі. Па словах Лукашэнкі, дамова выпраўляла памылку, зробленную у 1991 годзе — развал СССР. У адпаведнасьці з дамовай былі створаныя наддзяржаўныя органы Супольнасьці: Вышэйшы Савет, у склад якога увайшлі прэзыдэнты, прэмьеры і кіраўнікі парламэнтаў дзьвух краінаў, выканаўчы камітэт і парламэнцкі сход. Вышэйшы Савет узначаліў на 2 гады прэзыдэнт Беларусі, выканаўчы камітэт — прэмьер Расеі Віктар Чарнамырдзін. Трэба адзначыць, што гэтыя інстытуцыі мелі па дамове кансультатыўны характар.

У адным з артыкулаў дамовы было адзначана, што пры неабходнасьці у абедзьвух краінах могуць быць праведзеныя рэфэрэндумы аб далейшым, больш шчыльным аб'яднаньні.

Заявы аб хуткім аб'яднаньні, падпісаньне дамовы аб стварэньні супольнасьці выклікалі вельмі рэзкую рэакцыю беларускай апазыцыі. У Менску прайшло некалькі буйных масавых акцыяў пратэсту. Гэтыя маніфэстацыі жорстка падаўляліся міліцыяй і АМАПам.

5-га траўня домова аб супольнасьці была ратыфікаваная Вярхоўным Саветам Беларусі. Супраць ратыфікацыі выказалася толькі некалькі дэпутатаў зь лібэральнай фракцыі «Грамадзянскае дзеяньне».

8-га траўня, выступаючы перад вэтэранамі, прэзыдэнт заявіў: «Мы вернем вам адзіную бацькаўшчыну, за якую вы змагаліся». Тады ж ён сказаў: «Мы ня можам спакойна назіраць за тым, як жудасны монстр НАТО набліжаецца да межаў нашай сінявокай Беларусі».

Летам 1996 году кіраўнік камітэту Дзярждумы Расеі па пытаньнях бясьпекі камуніст Віктар Ілюхін заявіў, што ЦРУ ЗША распрацавала плян па адхіленьню ад улады прэзыдэнта Беларусі. Гэта было адной са шматлікіх праяваў шчыльнага альянсу паміж беларускім лідэрам і расейскай апазыцыяй.

У пачатку восені прэзыдэнт пачаў дамагацца правядзеньня рэфэрэндуму па новай канстытуцыі. Праэкт новага асноўнага закону дазваляў кіраўніку дзяржавы сканцэнтраваць у сваіх руках усю паўнату улады. Пачалося жорсткае супрацьстаяньне паміж прэзыдэнтам і парлямэнтам.

За некалькі тыдняў да рэфэрэндуму прэзыдэнт па запрашэньню шавіністычна настроеных расейскіх парлямэнтараў наведаў Маскву і выступіў у Дзярждуме. У сваім выступе ён прадставіў сваіх палітычных апанэнтаў, як ворагаў беларуска-расейскай інтеграцыі і агентаў Захаду.

За чатыры дні да рэфэрэндуму у Менск прыбылі прэмьер Расеі Віктар Чарнамырдзін, і кіраўнікі абедзьвух палатаў Федэральнага сходу Ягор Строеў і Геннадзь Селязнеў. У гэты час ужо была сабраная неабходная колькасьць подпісаў дэпутатаў ВС аб пачатку працэдуры імпічмэнта прэзыдэнта. Але падчас начных перамоваў Лукашэнкі са спікерам Сяменам Шарэцкім пры пасрэдніцтве маскоўскай тройкі была дасягнута дамоўленасьць, у адпаведнасьці зь якой парламэнт адмаўляўся ад працэдуры імпічманта, а прэзыдэнт атрымліваў новую канстытуцыю, толькі не адразу, а праз тры месяцы. Працэдура імпічманта была спынена, але прэзыдэнцкая фракцыя ў- ВС заблякавала выкананьне сьціплых абавязкаў прэзыдэнцкага боку.

24-га лістапада на рэфэрэндуме, які быў праведзены з масавымі і брутальнымі парушэньнямі законаў і з фальсіфікацыямі прэзыдэнт атрымаў перамогу. ВС быў разагнаны, замест яго прэзыдэнтам была сфармаваная паслухмяная палата прадстаўнікоў. Расея была адзінай краінай, якая адразу прызнала вынікі плебісцыту і яго наступствы.

У канцы 1996 году адбыўся вывад з Беларусі рэштаў расейскай ядзернай зброі.

Тады ж пачаўся чарговы этап інтэграцыйных гульняў. Зьявіўся праэкт паглыбленьня інтэграцыі, падрыхтаваны расейскім палітыкам Алегам Румянцавым. Праэкт прадугледжваў увядзеньне агульнага грамадзянства супольнасьці і стварэньне адзінага парлямэнту, дэпутаты якога абіраліся б насельніцтвам абедзьвух краін.

Тады ж уплывовы расейскі палітык, віце-спікер Думы Сяргей Бабурын публічна заявіў, што найлепшы кандыдат у прэзыдэнты Расеі ад апазыцыі — гэта Аляксандр Лукашэнка.

У пачатку 1997 году прэзыдэнт Беларусі атрымаў ліст ад свайго расейскага калегі з дакладным плянам эканамічнай інтэграцыі. Гэты плян прадугледжваў паскарэньне эканамічных рэформаў у Беларусі, акцыянаваньне буйных беларускіх прадпрыемстваў, узгадвалася ў пасланьні і магчымасьць правядзеньня у 1997 годзе рэфэрэндуму аб аб'яднаньні дзьвух краінаў.

Рэакцыя беларускага лідэра на ліст Ельцына была адмоўнай. Упершыню ён заявіў, што ўмовамі інтэграцыі зьяўляецца захаваньне сувэрэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі і раўнапраўныя адносіны дзьвух краін. Пры гэтым прэзыдэнт адзначыў, што інкарпарацыя Беларусі ў Расею цалкам непрыймальная. Ён выказаў меркаваньне, што на самай справе аўтарам ліста зьяўляецца уплывовы вораг інтэграцыі, кіраўнік адміністрацыі Ельцына Анатоль Чубайс.

У расейскім кіраўніцтве вяліся жорсткія спрэчкі вакол пытаньня інтэграцыі з Беларусьсю. У Маскве абмяркоўвалася некалькі праэктаў інтэграцыі: прэзыдэнцкі, які быў заснаваны на ўзгаданым лісьце прэзыдэнта, думскіх шавіністаў, які прадугледжваў інкарпарацыю Беларусі ў Расею у якасьці 6-х губэрняў, урадавы, які быў вельмі падобны на праэкт самога прэзыдэнта Беларусі.

Пасьля сустрэчы дзьвух прэзыдэнтаў у Менску адбылося паседжаньне парлямэнтскага сходу супольнасьці, на якім Лукашэнка выклаў свой плян інтэграцыі: супольнасьць ператвараецца ў саюз, органы супольнасьці ператвараюцца у наддзяржаўныя, рашэньні якія маюць абавязковы характар для нацыянальных уладаў.

У выніку 2-га красавіка была падпісаная толькі агульная дамова аб стварэньні саюзу, Ельцын згадзіўся толькі парафіраваць статут і прапанаваў вынесьці яго на ўсенароднае абмеркаваньне.

Беларуская апазыцыя вельмі рашуча выступала супраць чарговага раунду інтэграцыі, разглядаючы яго як спробу зьнішчыць незалежнасьць Беларусі. Ужо зь лютага БНФ пачаў пікетаваць расейскую амбасаду ў Менску. У весну паднялася моцная хваля масавых ак-

*(Працяг на бал. 2)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ХРОНІКА ... *(Працяг з бал. 1)*

цыяў у абарону незалежнасьці. Улады дзейнічалі яшчэ больш жорстка, чым у 1996 годзе, напярэдадні веснавых выступленьняў аппазыцыі прэзыдэнт выдаў дэкрэт, якім былі значна ўзмоцнены санкцыі за правядзеньне недазволеных масавых акцыяў і ўведзены абмежаваньні на іх правядзеньне. Гранічна жорсткае падаўленьне выступу апазыцыі адбывалася 2 красавіка, у дзень падпісаньня дамовы аб саюзе.

Пасьля шматлікіх адчыненых і закулісных перамоваў праэкт саюзу быў апрацаваны.

У апошнія дні абмеркаваньня фэдэратыўны варыянт атрымаў моцную падтрымку на самым высокім узроўні.

Прэзыдэнт Лукашэнка заявіў, што такі варыянт для яго цалкам непрымальны.

23-га траўня 1997 году адбыўся акт падпісаньня дакумэнту.

Што падпісалі 23 траўня два прэзыдэнты?

Чым адрозьніваецца падпісаны статут Саюзу ад папярэдняга праэкту, дакладней кажучы, ў чым яго адрозьненьні ад тых варыянтаў, якія лунаді паміж уладнымі кабінэтамі менскай Масквы? Мэта саюзу адлюстраваная ў статуце даволі цьмяна: «паслядоўнае прасоўваньне да аб'яднаньня дзяржаў удзельніц». Супраць удакладненьня формы аб'яднаньня рашуча выказаўся прэзыдэнт Беларусі Лукашэнка. Але ж абстрактную фармулёўку усё ж такі пакінулі: трэба ж чымасьці заняцца наступнай вясной.

Узьніклі ў статуце і тэзы наконт дэмакратыі і правоў чалавека: у адпаведнасьці з артыкулам 8, адной з мэтаў саюзу зьяўляецца садзеяньне разьвіцьцю дэмакратыі, абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў чалавека і грамадзяніна, у артыкуле 13, размова ідзе аб забясьпечаньні свабоды слова і мас-мідыя, прававых гарантый дзейнасьці усіх зарэгістраваных палітычных партый, недатыкальнасьці прыватнай уласнасьці.

Але ж беларускі лідэр неаднаразова падкрэсьліваў, што з дэмакратыяй і правамі чалавека ў Беларусі усё настолькі добра, што нават Захад мог бы павучыцца.

Больш стрымана і няпэўна, чым у папярэднім праэкце, сфармуляваныя ў статуце шляхі увядзеньня адзінай валюты: ідзе размова толькі аб стварэньні умоў для гэтага, фармаваньне адзінага эмісыйнага цэнтру таксама аднесена ў невядомую будучыню.

Дастаткова супярэчліва выглядаюць артыкулы, прысьвечаныя структуры наднацыянальных ворганаў саюзу. У адпаведнасьці з артыкулам 19, рашэньні вышэйшага савету і выканкаму маюць простае дзеяньне, падлягаюць безумоўнаму выкананьню нацыянальнымі ворганамі ўлады. Але у адпаведнасьці з артыкуламі 20-21 рашэньні прымаюцца па прынцыпу «адна краіна — адзін голас», галасаваньне ажыцьцяўляюць кіраўнікі абедзьвух дзяржаў, без абодвух іх подпісаў рашэньні савету нясапраўдныя. Такім чынам, прэзыдэнты краін фактычна маюць права вэта, намінальным робіцца і пасада старшыні вышэйшага савету, якую зараз займае прэзыдэнт Лукашэнка.

Бакі дэманструюць выдатную задаволеннасьць і гэта — ня толькі добрая міна пры дрэннай гульні. Часткова гэтая задаволеннасьць абумоўлена тым, што партнёр не атрымаў таго, чаго хацеў. Артыкулам аб прэзыдэнцкім вэта Крэмль прадухіліў магчымасьць для Лукашэнкі праз вышэйшы савет пакіраваць Расеяй. Да таго ж камбінацый зь нечаканай фэдэратыўнай прапанаваі Масква здолела крыху дыскрэдытаваць менскага «інтэгратара» у вачах імпэрскага электарату: маўляў, калі справа дайшла да рэальнага аб'яднаньня, менавіта Лукашэнка не пагадзіўся.

Барыс Ельцын асабліва і ня цісну на калегу, канчатковыя ўзгадненьні статуту працягваліся толькі дзьве гадзіны. Падцверджваецца гіпатэза, што Масква была нават зацікаўленая, ў тым, каб беларускі прэзыдэнт адмовіўся падпісаць згадку пра фэдэрацыю.

Трэба заўважыць вельмі стрыманую рэакцыю на падпісаньне статуту з боку расейскіх сродкаў масавай інфармацыі, асабліва дзяржаўных. Крытыкі амаль ня было: трэба было падаваць падпісаньне статуту, як перамогу Ельцына, асабліва напярэдадні 27 траўня, падпісаньня ў Парыжы дамовы паміж Расеяй і НАТА.

Ці атрымаў 23 траўня паразу прэзыдэнт Лукашэнка? У параўнаньні з тым варыянтам, які ледзь не падпісалі 2 красавіка — безумоўна, так. Але аб'ектыўна — не. Ворганы саюзу, як бы то ні было, створаныя, есьць мэханізм для змаганьня за ўладу на абшары ад Берасьця да Курылаў. У апошняй праграме «Рэзананс» аглядальнік БТ Аляксандар Зімоўскі вельмі дакладна вызначыў шляхі наступных гульняў Лукашэнкі на расейскім полі.

Па-першае, гэта выхад на рэгіянальных лідэраў Расеі без усялякіх дыпляматычных умоўнасьцяў. Зь лідэрамі расейскіх аўтаноміяў размова, хутчэй за ўсе, не атрымаецца: узгадаем рэзкія заявы прэзыдэнта Татарстана Мінцімера Шаймієва падчас абмеркаваньня статуту. Але ў губэрнатараў «чырвонага поясу» Расеі Лукашэнка можа знайсьці ўзаемаразуменьне. Падругое, адзначыў Зімоўскі, нават пры наяўнасьці у статуце права вэта сучасная каманда Ельцына можа сутыкнуцца зь непрыемнай дылемай: ці заблякаваць нейкую прапанову Лукашэнкі, якая мае падтрымку расейскіх рэгіёнаў, і увайсці зь імі ў канфлікт, ці згадзіцца зь ей і даць магчымасьць прэзыдэнту Беларусі набіраць ачкі на чужым полі.

Нездарма сваю прамову падчас падпісаньня статуту прэзыдэнт Лукашэнка прысьвяціў выкрыцьцю козьняў ворагаў інтэграцыі.

Да таго ж ен захаваў за сабой «апэратыўную базу» — Беларусь. З аднаго боку, гэта добра — краіну не прадалі хаця б таму, што не зышліся ў цане. З другога боку, захаваўся дэтанатар для магчымага выбуху ў Расеі. У выпадку рэзкага абвастрэньня сытуацыі ў Расеі статут дае магчымасьць прэзыдэнту Беларусі ўзяць ў крызісе актыўны ўдзел.

Што тычыцца Расеі, то і ей статут адкрывае пэўныя магчымасьці, праўда, іншага кшталту. У першую чаргу — гэта пашырэньне эканамічнага ўплыву: нездарма інтэграцыйная эпапея супала з рэзкім узьлётам актыўнасьці на Беларусі расейскага бізнэсу, у першую чаргу, банкаў. Да таго ж незалежніцкая рэторыка Лукашэнкі дае псыхалягічную магчымасьць Маскве больш вольна выкарыстоўваць запазычанасьць Беларусі, як сродак палітычнага ціску.

Як і заўжды, статут саюзу стаў ня кропкай, а шматкроп'ем. Наступны палітычны тэкст пачнецца з новага абзацу.

*Ліст з Аўстраліі*

## ГОЛАС БЕЛАРУСАЎ

*Мы, беларусы, просім усіх людзей добрае волі аб дапамозе*

Памылкова выбраны прэзыдэнтам нашага краю былы савецкі камісар А. Лукашэнка зьнішчыў усе дэмакратычныя асновы толькі што заснаванай новай дзяржавы ды ўвёў таталітарны камуністычны рэжым.

Лукашэнкаўскія «амонаўцы» б'юць дубінкамі пратэстуючых беларусаў, што бяруць удзел у дэманстрацыях супроць таталітарнага рэжыму ў Беларусі і супроць няволі народу ў нашай пакутнай краіне.

Разбоі й катаваньні беларускіх патрыятычных дэманстрантаў паліцэйскімі, на службе Лукашэнкі — пераважна расейскай нацыянальнасьці — паказвае сапраўдную сытуацыю дружбы паміж двума народамі, беларускім і рускім.

Пагрозы выказаныя ў **расейскай мове** самым Лукашэнкам пад адрасам беларускіх патрыётаў усё болей і болей паказваюць сапраўдны твар прэзыдэнта.

Беларусы маюць права мець свайго **беларускамоўнага** прэзыдэнта, а не чужынца, які адкінуў беларускую мову, гісторыю, культуру й векавыя традыцыі нашага народу, а замест іх уводзіць іншага, расейскага, народу мову й культуру. У такіх абставінах беларуская мова, як і самыя беларусы аказаліся адкінутыя ў сваім краі, на сваёй зямлі у катэгорыю меншасьці.

Беларусы маюць права жыць і быць вольнымі людзьмі, а ня жыць пад страхам «дубінкі», або турмы, або ціхага забойства напажаданых Лукашэнку людзей.

Гэтая авантура Лукашэнкі супроць беларускага народу ціха талеруецца Масквою. Масква ведае, што робіцца ў Беларусі, але лідэры Расеі адказваюць, што гэта ня іхняя справа.

Сп. Лукашэнку, як і прэзыдэнту Ельцыну і ўсім прадстаўнікам ураду Расейскай Фэдэрацыі мы беларусы дыяспары абвяшчаем пратэст супраць інтэграцыі Беларусі з Расеяй.

Беларусь ёсьць незалежнай рэспублікай і ліквідаваць незалежную нацыю — праступства. Беларусь у цяперашнім часе ня мае дэмакратычнага парлямэнту выбранага народам і, дзеля гэтага, усе падпісаныя акты аб інтэграцыі становяцца паводле міжнароднага права няважнымі.

Беларусь напэўна перажыве Лукашэнку, гэтага архітэктара беларускае нядолі. І нскалі «Ворганы Беларускае Справядлівасьці» будуць расьсьледваць гэтую нацыянальную трагедыю. Тое, што зрабіў Лукашэнка у дачыненьні да незалежнай Беларусі і беларуска народу у міжнародным праве называецца здрадаю нацыі і здрадаю краю. У ангельскай сыстэме гэта называецца "High treason".

Ніколі, як цяпер ня можна паддавацца. Беларусь павінна далей змагацца і дамагацца сваіх правоў. Беларуская дыяспара абавязаная прабаваць дасягнуць усялякімі шляхамі дапамогі ў справе незалежнай і свабоднай Беларусі.

У цяперашней палітычнай агоніі нашага краю патрэбна моцная палітычная дзейнасьць з боку беларускай дыяспары. Трэба паставіць пытаньне, ці беларуская дыяспара мае такую праўную арганізацыю якая можа дзеіць на узроўні ураду на выгнаньні. Калі ёсьць такая арганізацыя, дык чаму няма зь яе боку ніякага водгуку? А калі няма такое арганізацыі, дык трэба яе заснаваць.

**Ян Гацько**

Дарагія Суродзічы!

З нагоды 5-га зьезду Беларускага Народнага Фронту — сапраўднага авангарду нацыянальна-незалежніцкае, дэмакратычнае плыні Беларускага Вызвольнага Руху — Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне перасылае Вам найшчырэйшыя пажаданьні ды пасьпяховасьці ў працы. Вашая выдатная дзейнасьць у абароне беларускае дзяржаўнасьці і дэмакратыі сёньня ведамая ўсяму сьвету і мы цалкам салідарызуемся з Вамі!

Жыве Беларусь!

**БАЗА**

*З жыцьця ў Чыкага*

У цэнтры Чыкага, у вестыбюлі мэрыі, 17-га сакавіка сёлета адкрылася выстава твораў двух мастакоў — Леаніда Асеньняга і Анатоля Упарта. Абодва яны прыехалі ў розны час у Чыкага зь Беларусі.

Выстава твораў Леаніда Асеннага і Анатоля Упарта, якая трывала да 11-га красавіка, арганізаваная аддзелам культуры мэрыі і Беларускім Каардынацыйным камітэтам Чыкага, была прысьвечаная нацыянальнаму сьвяту Беларусі — Дню Незалежнасьці 25 сакавіка.

* * *

## ВЫСТАЎКА ЭТНІЧНЫХ ЖАНОЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

18-га сакавіка была наладжаная 2-я гадавая выстаўка этнічных жаночых арганізацыяў пад спонстарствам губэрнатара Ілліной Джыма Эдгара ў штатным будынку. Арганізацыйна й



*Фрагмэнт выстаўкі. Зьлева-направа: Пэт Міхальскі, Вера Рамук, Ліля Каскаскі, Ірэна Пануцэвіч і асыстэнтка губэрнатара.*

тэхнічна была адказнай за выстаўку сп-ня Пэт Міхальскі, асыстэнтка пры губэрнатары па этнічных справах. Каля пяцідзесяці этнічных арганізацыяў прыняло ўдзел у ёй.

Стэнд беларускай жаночай арганізацыі ў Чыкага нарыхтавала сп-ня Вера Рамук, адказная за яго, з дапамогай спі-ні Ірэны Пануцэвіч і Лілі Каскаскі.

На панэлях былі вывешаныя прыгожыя нацыянальныя жаночыя касьцюмы, а побач іх вышыўкі работы Ірэны Пануцэвіч і Людвікі Бяленіс. Для шырэйшага азнаямленьня наведвальнікаў зь беларускай народнай вопраткой па рэгіёнах, быў нарыхтаваны каляж.

На стале былі разложаныя вышыўкі з калярытнымі ўзорамі, груповыя здымкі зь дзейнасьці Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, дэкаратыўныя талеркі зь Беларусі, вырабы з саломак, закладкі ў кніжкі, шкатулкі інкруставаныя саломкай, яйкі-маляванкі, новыя англамоўныя й беларускія кніжкі. Беларускі альфабэт заўсёды зьяўляецца прадметам зацікаўленьня наведвальнікаў, дзеля гэтага быў паказаны ў двух варыянтах — у кірылічным і лацінскім.

Каб нагадаць публіцы аб надыходзячых 79-ых угодках Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі быў выстаўлены пераклад па-ангельску граматы 25-га Сакавіка 1918 году.

Абраз Маці Божай Чарнобыльскай напамінаў наведвальнікам аб радыяцыйнай катастрофе, ад якой найбольш пацярпела Беларусь.

Сярод шматлікіх наведвальнікаў, затрымаліся пры нашым стэндзе і два дэлегаты з Узьбекістану, якія прыехалі ў Амэрыку для азнаямленьня з краінай. Яны зацікавіліся нашымі экспанатамі і распытвалі пра беларусаў у Чыкага.

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ

Адзначэньне 79-ых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Каардынацыйным Камітэтам у Чыкага пачалося ў дзень 25-га сакавіка, калі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг залунаў побач амэрыканскага перад Гарадзкой Управай.

Урачыстая акадэмія вечкапомнага акту была наладжаная ў нядзелю 20-га красавіка ў Беларускім Рэлігійна-Культурным Цэнтры. Сьвятую Літургію за беларускі народ адслужыў а. Джан Мак Данэл у беларускай Каталіцкай Царкве ўсходняга абраду Хрыста Збаўцы, а ў сваёй казані нагадаў пра нацыянальную ўрачыстасьць, просячы Ўсемагутнага Бога дапамагчы беларускаму народу.

Сьвяточная акадэмія, якую вёў удала Др. Ролянд Талівэр, пачалася пасьля полудня.

У кароткім слове Др. Вітаўт Рамук, старшыня БККЧ прывітаў прысутных з нацыянальным сьвятам і нагадаў пра складаную сытуацыю ў Беларусі. Хвілінай маўчаньня ўся грамада ўшанавала памяць гэрояў, што аддалі сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну, а гэтаксама і сябру БККЧ сьветлай памяці Міхася Махнача.

Са зьмястоўным дакладам выступіў журналіст Ванкарэм Нікіфаровіч. Прэлєгэнт зазначыў, што пагроза анэксіі Беларусі да Расеі ёсьць рэальная, правы чалавека парушаюцца, свабода слова агранічваецца, мова беларуская выцісьняецца, але паміма гэтага дзень 25 Сакавіка — Дзень Незалежнасьці застаецца вялікім сьвятам для ўсіх беларусаў.

З прывітальным словам выступіла сп-ня Пэт Міхальскі, асыстэнтка губэрнатара Ілiной па справах этнічных і прачытала праклямацыю ад губэрнатара Джыма Эдгара з нагоды сакавіковай ўрачыстасьці. Праклямацыю ад мэра гораду Чыкага Рычарда Дэйлі прачытаў Джан Кучура.

У вакальна-музыкальнай частцы пад акампаніямэнт на піяне Арона Лівшына, кампазытар-сьпявак Міхась Кляйнэр-Парыч выканаў чатыры песьні сваёй кампазыцыі.

Сп-ня Вера Рамук, сакратарка Беларускага Каардынацыйнага Камітэты ў Чыкага, нагадала пра атрыманыя прывітаньні з нагоды сакавіковых угодкаў, між іншых ад Роўз Фарыны, кіраўнічкі праграмаў у Дэйлі Цэнтры, якая прачытала ліст ад губэрнатара Джыма Эдгара да сп. Нікадэма Жызлнеўскага, кіраўніка беларускіх радыёпраграмаз «Нёман», у якім губэрнатар вітае яго з 37-мі угодкамі беларускага радыё і жадае яму памыснай працы.

У гэтым годзе дзьве маладыя беларускі былі узнагароджаныя плякеткамі ўзнаньня за працу для беларускага грамадзтва. Сп-ня Вера Рамук, уручаючы плякетку, нагадала, што Мэры Андэрсон, дачка дзейных бацькоў Нікадэма і Анны Жызьнеўскіх прыймала ўдзел у беларускай танцавальнай групе ды прыцягвала сваіх амэрыканскіх сяброўак да групы. Яна гэтаксама ахвотна выконвала абавязкі у беларускіх нацыянальных імпрэзах. Прэзэнтуючы другую плякетку Ірэне Гэрцаў, з дому Мароз, сп-ня Вера Рамук сказала, што Ірэна вызначылася узгадаваньнем сваіх дачок у беларускай сьведамасьці. На довад гэтага быў цікавы эпізод: ейная дачка, апранутая ў беларускі нацыянальны строй, была на зборцы розных этнічных дзяцей і калі настаўніца паставіла яе ў групу расейскіх дзяцей, яна не згадзілася з гэтым, кажучы, што яна беларуска і на карце паказала сваю краіну Беларусь. Настаўніца вельмі пазытыўна прыняла гэтаю заўвагу і сказала, што й яна сёньня нешта пазнала.

Кампазытар-сьпявак Кляйнэр-Парыч прапяяў тры песьні, адна зь іх на яговыя словы пад загалоўкам «Я верны сын твой, Беларусь» і ягонай кампазыцыі выклікала бурныя воплескі прысутных. У довад удзячнасьці кампазытару Клянэру група дзяцей у нацыянальных строях падышлі да яго і Ліндсі Андэрсон уручыла букет кветак, а Мэры Талівэр сказала яму па-беларуску: «Дзякуй вам ад Беларусі».

Працяг на б. 4

*Зь беларускага жыцьця Ў Мэльбурне, Вікторыя*

Ад 13-га да 17-га лютага сёлета беларускія арганізацыі у Мэльбурне бралі актыўны удзел у нарадах 12-га Зьезду Беларусаў Аўстраліі, што адбываліся у горадзе Адэляйдзе, Паўдзённая Аўстралія, куды зьехаліcь усе прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў — сяброў Федэральнай рады.

Гасьцінныя беларусы Адэляйды прынялі сваіх суродзічаў надзвычайна добра. На падзяку заслугоўваюць асабліва сп. М. Колес, старшыня Беларускага Аб'еднаньня у П. Аўстраліі і настаяцель мясцовай БАПЦарквы а. Міхаіл з матушкай Ольгай, шчыра аддаңай, як царкоўнай гэтак і грамадзкай справе.

Зьезд пачаўся 14-га лютага, а гадзіне 10-ай рана у прыцаркоўнай залі БАПЦ, Сьв. Ап. Пятра й Паўла.

Сп. Мікалай Колес, старшыня мясцовай арганізацыі, прывітаў гасьцей ды падзякваў за прыезд, што не глядзячы на сьлякоту, не шкадуючы сіл сабраліся, каб узяць удзел у такой важнай справе. Сп. М. Колес перадаў слова старшыні Ф. Рады сп. Аўгену Грушу.

Было падана два кандыдаты на старшыню і сакратара прэзыдыуму Зьезду Ул. Сідлярэвіч і П. Гуз. У мандатную Камісію увайшлі а. Міхаіл і сп. М. Колес, якія спраўдзілі мандаты.

Дэлегаты ад 8-х Арганізацыяў з Перту, Мэльбурну, Адэляйды і Сыднею злажылі пісьмовыя справаздачы з дзейнасьці іх арганізацыяў за мінуўшыя два гады, ды накінулі плян працы на наступныя два гады. Калі дайшлі да выбараў у ВК-т Ф. Рады, то аднагалосна была абраная старая Управа у складзе: А. Груша — старшыня, П. Гуз — сакратар, Ул. Сідлярэвіч — скарбнік, сувязным навонкі пры Ф. Радзе Алег Шнэк; на заступнікаў старшыні увайшлі сп. А. Мароз (Перт), Карпінскі (Адэляйда), М. Тіхон (Сыдней), а ў Рэвізійную камісію сп-ня Н. Груша, М. Колес, А. Мароз.

16-га лютага, раніцай а. Міхаіл адслужыў Сьвятую Літургію. Хор пад кіраўніцтвам В. Калесьніковіча сьпяваў надзвычайна.

Пасьля службы у прыцаркоўнай залі адбыўся разьвітальны абед, прыгатаваны матушкай Ольгай і жанчынамі парафіі. а. Міхаіл благаславіў сталы, ды зачытаў Рэзалюцыю 12-га Зьезду, на падрыхтаваньне якой былі выбраныя на парадах Зьезду: Мікалай Колес, а. Міхаіл, а. Александар Грыцук. Рэзалюцыя была прынятая апладысьмэнтамі і словамі Жыве Беларусь Вольная і Незалежная!!!

Пакідаючы гасьцінную Адэляйду, успамінаем, што асабліва было прыемна бачыць тры сям'і нашых суродзічаў зь Беларусі, якія прыехалі настала жыць у Аўстралію ды далучыліся да сваіх зямлякоў беларусаў, якіх ваенная ліхалецьцё закінула паўстагодзя таму назад.

**Паўлюк Дуброўскі**



*Міхась Кляйнэр-Парыч з беларускімі дзецьмі.*

## *З жыцця ў Клiўлендзе*



*Група клiўлендзкiх жанчын-матак перад беларускай царквой*

### ДЗЕНЬ МАЦI

Парахвiя Жыровiцкае Божае Мацi ў Клiўлендзе кожны год адзначае Дзень Мацi, якое сёлета адбылося 11-га траўня. Пасьля сьв. Лiтургii, настаяцель Мiхась Страпко адправiў малебен за матак, а ў канцы сказаў казань, прысьвечаную маткам падкрэсьлiўшы, што яны ў сваiм жыцьцi шмат перажылi узгадоўваючы сваiх дзяцей. Затым у царкоўнай залi адбылося прыняцьцё для матак i усiх прысутных. Ў канцы абеду быў традыцыйны каравай для матак. Перш абслугованыя былi маткi а пазьней усе прысутныя. У часе абеду, старшыня Рады Оля Дубаневiч, прывiтала матак з днём Мацi, пажадала iм добрага здароўя, шчасьлiвага, вясёлага й доўгага жыцьця. Ушанавалi таксама дзьвюх найстаршых матак Юлю Палонскую й Марыю Гумен а ў канцы ўручылi маткам вазоны кветак. Бяседа прадаўжалася доўга ў вясёлым настроi, пад акампанiмент Федзi Паўлаўца прасьпявалi шмат беларускiх народных i нацыянальных песьняў. Сёлетнi дзень мацi адбыўся на шмат вышэйшым узроўнi, чым папярэднiя. Вялiкая заслуга тут належыць старшынi Олi Дубаневiч i сябром рады.

### СЬВЯТА ПАТРОНКI

Парахвiя Клiўленду заўсёды ўрачыста адзначала сьвята Патронкi Iконы Жыровiцкае Божае Мацi. Сёлетняя праграма пачалася ў царкве ў нядзелю 25-га траўня, а 9:30 ранiцы. Дзецi прывiталi Мiтрапалiта Мiкалая, Першага Ярарха БАПЦарквы з кветкамi. Была адслужана ўрачыста Архiрэйская Лiтургiя, царкоўны хор добра упрыгожыў службу сваiмi напевамi. У канцы службы Мiтр. Мiкалай прывiтаў усiх са сьвятам патронкi, закрануў таксама падзеi ў Беларусь, што там цяпер уводзiцца расейшчына, а тут, на эмiграцыi мы далей будзем праводзiць службы ў беларускай мове.

Банкет адбыўся у Грамадзкiм цэнтры Полацку а 1:00 папаўднi. Заля была ўпрыгожана рэлiгiйнымi арнамэнтамi. Абед вельмi добра прыгатаваны жанчынамi, за што яны атрымалi вялiкую падзяку ад прысутных. Старшыня рады Оля Дубаневiч прывiтала прысутных са сьвятам патронкi, пажадала ўсiм добрага здароўя, шчасьлiвага й вясёлага жыцьця на будучыню. Гэтаксама прывiтала Мiтр. Мiкалая з 80-мi ўгодкамi яго народзiнаў й паднесла яму каравай. Таксама яна прывiтала настаяцеля М. Страпка з матушкаю Наталяю з 50-мi ўгодкамi жанiмства й 30-мi ўгодкамi служэньня ў царкве, дыяканам i сьвятаром.

### ДЗЕНЬ БАЦЬКI

Парахвiяльная рада адзначыла 15-га чэрвеня Дзень Бацькi. Пасьля сьв. Лiтургii, настаяцель М. Страпко адправiў малебен за бацькоў беларускае калёнii й у Беларусi, а пры выхадзе з царквы, жанчыны прышчапiлi ўсiм бацьком кветкi. У царкоўнай залi адбылося прыняцьцё для бацькоў i ўсiх прысутных. Старшыня Рады Оля Дубаневiч прывiтала бацькоў, якiя найбольш спрычынiлiся ў будове гэтае царквы. Пажадала бацьком беларускае калёнii добрага здароўя, шчасьлiвага й вясёлага жыцьця на будучыню й уручыла двум старшым бацьком Андрэю Стрэчаню й настацелю М. Страпку падарункi. Настрой абеду быў вясёлы, i як ужо увайшло ў традыцыю, пад акампанiмэнт Федзi Паўлаўца, прасьпявалi нескалькi беларускiх народных i нацыянальных песьняў.

**К.П.**

### ПАРАФIЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ДОРАТЫ, ШТАТ НЬЮ ДЖЭРЗI

15 чэрвеня парафiя БАПЦ Сьв. Тройцы ў мястэчку Дораты вельмi ўрачыста адзначыла сваё парафiяльнае сьвята. Быў вельмi ўрачысты настрой — прыехала шмат вернiкаў з суседнiх парафiяў ды ўзяла удзел у сьвяткаваньнi значная група казакоў, якiя, як ведама шчыра падтрымваюць БАПЦ. Сястрыцтва парафii зрыхтавала смачны абед, у часе якога адбывалiся гутаркi — найбольш аб падзеях на Беларусi.

Гэтым хачу нагадаць нашым суайчыньнiкам у Нью Ёрку i поўначы штату Нью Джэрзi, што мы ў Дораты жывем i молiмся ды заклiкаем суродзiчаў i просiм Уладыку Мiтрапалiта Мiкалая не забываць нас ды час-часом адведваць.

**Настаяцель парафii**
**Архiмандрыт Карп**

## *З жыцьця у Чыкага*

**Пачатак на б. 3**

Наапошку а. Джам Мэкданэл сказаў завяршальную малiтву. Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гiмну «Мы выйдзем шчыльнымi радамi» i амэрыканскага "Gold bless America" закончылася праграма.

Шчырая падзяка за наладжаньне праграмы нележыць сп. Нiкадэму Жызьнеўскаму, сп-нi Веры Рамук, др. Ролянду Талiвэру, сп.сп. Ванкарэму Нiкiфаровiчу, Мiхасю Кляйнэру-Парычу, Леанiду Асеннаму, Анатолю Упарту, спадарыням Мэры Андэрсон, Лiлi Каскоскай, Марце Кучуры, спадарству Джану i Тамi Кучурам i сп. Арону Лiвшыну.

**Др. Вiтаўт Рамук**

**Надоечы дайшла да нас зь Беларусi цiкавая п'еса выдрукаваная так званым «Нефармальным» спосабам. Дзеля ейнае актуальнасьцi перадрукоўваем яе гэтта, толькi зь невялiчкiмi рэдактарскiмi карэктамi ды дадаем колькi заўвагаў.**

**Рэдакцыя**

# СЬМЕРЦЬ ТЫРАНА, або McDonalds зачыняеццца

**п'еса ў адну дзею** **Максiм Шпанскi**

***Дзейныя асобы:***

*Аўтар — завадзiла*
*Iгнат Грынявiцкi — адзiн народны герой*
*Мiкалай Рысакоў — другi народны герой*
*Гарадавы — прадстаўнiк улады*
*Пралетар — голас народа*
*Шасьцёрка — чмошнiк з унiвера**
*Дзядок — калекцыянэр шклотары*
*Хiпi — олдавы тусоўшчык***
*Цар — тыран, сатрап i iнквiзытар*
**У эпiзодах:** *часной народ.*

**Аўтар:**
Суайчыньнiк! Фактычна настала вясна.
Як ае адзначалi раней, запытаем,
Сто гадоў таму з гакам? Наводжу вас на
Успамiн аб падзеi, што мы адзначаем.
Iснаваў такi звычай з адамавых дзён
Мiж цароў: быць мярзотнiкам i пустабрэхам.
У народа-ж быў iншы ў адказ завядзён:
Вiншаваць iх зь вясной гучным бомбавым рэхам.
Яшчэ Брут зразумеў: зьнiшчыць гада таньней
I прыемней нашмат, чым чакаць, што ён сыдзе.
Мабыць, доказы зброi намнога мацней
За пустыя прамовы i скаргi аб крыўдзе.
Так здалося i нашым героям дваiм:
Вось абодва стаяць i палююць на ката.
Калi ёсьць ваш дазвол, дамо слова мы iм.
Час для дзей надышоў для Мiколы з Iгнатам.

**Грынявiцкi:***
Рысакоў, гэта ты?

**Рысакоў:****
Ты-ж кажы хоць пароль,
А то бач, поўна ўсякiх...

**Грынявiцкi:**
Со страху забыўся.

**Русакоў:**
Значыць ты сапраўды.

**Грынявiцкi:**
Нешта зранку мой боль
За Айчыну ў фiзычны ператварыўся.
Нешта страўнiк балiць, пустата ў галаве...

**Рысакоў:**
Вось ты бачыш, адразу вiдаць беларуса.

**Грынявiцкi:**
Дзе?

**Рысакоў:**
Спужаўся? Ды я гавару пра цябе.

**Грынявiцкi:**
Можа, пойдзем? Бо, кажучы шчыра, баюся.

**Рысакоў:**
Цi здурэў? Пасаромся хацяб гледача.

**Грынявiцкi:**
Ты пра гарадавога? Усё, ён заўважыў.
Ёсьць два шанцы: даць дуба i даць стрыкача.
I, здаецца, абедзьве магчымасьцi ўзважыў:
Калi я сапраўды беларус! — уцяку
I таварыша здам у надзейныя рукi.
Калi ж я чалавек! — вазьму бомбу ў руку
i шпурну куды-небудзь. Абы гэтай сукi
Мне не зачапiць, а то мала чаго!
Ён усё-ж такi цар. Ён народ, мабыць, любiць,
Дык i чубiць яго. А што мне да таго?
Я-ж такi, як i вы. Мы усе тут ня людзi,
Мы тут проста жывем. I з царом будзем жыць.
Рысакоў, у меня ёсьць табе прапанова:
Будзешь першы шпурляць. Пастарайся забiць.
Вельмi ён мне абрыд. Не ўцяку, даю слова.

**Рысакоў:**
Грынявiцкi, ты самы тыповы бульбаш.
Быць такiм, як усе, быць нiкiм — твая мара.
Ты за ўласны спакой сваю годнасьць прадаш.
Каб за грошы хацяб, а ты-ж дык задарам.

**Грынявiцкi:**
Ты, маскальская морда, ня бэсьцi тут нас!
Я з табой аб'яднаўся выключна для справы.
Мы ўсе тут пакутуем болей за вас,
I каб нас вiнавацiць ня маеш ты права.
Мы адвеку лiчылi: павiнен быць цар.
Наш народ самастойна ляичуецца думаць.
Мы паставiм абедзьве шчакi пад удар,
Толькi б казачку слухаць, скарыначку хрумкаць.
Гэта... слова такое ёсьць: мэнталiтэт.
Гэта вельмi заразна. Трымайся падалей.
I ня трэба хаваць за сьпiною пакет.
Ужо хопiць саромецца! Досыць чакалi!
Мабыць ён не прыедзе. Гэй, гарадавы!

**Гарадавы:**
Я ня гэй.

**Грынявiцкi:**
Дзе там цар? А яшчэ нехта кажа:
iх павага — дакладнасьць.

**Гарадавы:**
Аб чым гэта вы?

**Грынявiцкi:**
Цi шчэ доўга. скажы, нам чакаць экiпажа?
Можа, нам дзеля сьмеласьцi ўзяць па адной?

**Рысакоў:**
Ты i гэтак са страху трымаешся хiстка.

---

* Ёлуп, дурная няпрыемная асоба.

** Гiпi — якi ходзiць па розных iмпрэзах, кампанiях, сустрэчах

* Iгнат Грынявiцкi (1856-1881) — беларускi рэвалюцыянер-народнiк. Уваходзiў у групу, якая рыхтавала замах на царя Аляксандра II. Кiнутая iм бомба забiла царя i сьмяротна паранiла Грынявiцкага.

** Нiколай Рысакоў (1861-1881) — расейскi народаволец. Кiнуў у цара Аляксандра II першую бомбу, якая не папала.

## ФОНД «САКАВІК» ДЗЕІЦЬ

Перадусім шчыра дзякуем за дар на фонд «Сакавік» Др. Ул. Набагезу (50 дал.) з ЗША і сп. Г. Шэйпаку (25 дал.) з Аўстраліі. Прышла таксама й гуманітарная дапамога, але мы змучшаныя былі з-за высокага ападаткаваньня адмовіцца, бо ня былі ў стане аплаціць.

Адным з абавязкаў Фонду — апека над чарнобыльскімі перасяленцамі, якія жывуць у Радашкавічах. На Вялікдзень ладзілі там канцэрт з удзелам дзіцячага ансамблю. Прамаўлялі да чарнобыльцаў Ганна Сурмач, Сымон Белы, Таня Хатэнка і інш. Фонд урачыў узнагароды дзецям, якія перамаглі на алімпіядзе прысьвечанай Якубу Коласу і якая адбылася колькі дзён перад гэтым у Радашкавічах.

7-га травеня фонд «Сакавік» правёў вельмі ўдалы вечар прысьвечаны 11-м угодкам Чарнобыля ў Музэі Я. Коласа. Вечар рыхтавалі аўтар гэтых радкоў і пісьменьнік Мікола Мятліцкі. Прамаўлялі Рая Баравікова, Яўген Хбалей, Таня Хатэнка і Анатоль Зэкаў.

Шэсьце «Чарнобыльскі Шлях» у гэтым годзе прашло спакойна. Сп-ні Кляшторнай і Марыі Міцкевіч даручана было несьці Ікону Божай Маці Чарнобыльскай.

Зараз у нас у гасьцях ангельскія мэдычныя сёстры, якія бралі ўдзел у апэрацыі дзетак, што прыехалі зь Беларусі ў Ангельшчыну. Пасьля сямімесячнага тамашняга прабываньня-паправы, цяжка было іх пазнаць.

Атрымалі запрашэньне ад Канадзкага Чарнобыльскага Фонду наведаць Канаду з групай дзяцей зь Беларусі. Спадзяёмся таксама спаткацца з канадыйскімі беларусамі.

**Марыя Міцкевіч**

## *ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ*

23 красавіка 1997 году ў штаб-кватэры ААН у Нью Ёрку зь вялікім посьпехам прайшоў Міжнародны дабрачынны чарнобыльскі базар. Арганізатарам гэтай акцыі, якая ўжо становіцца традыцыйнай, выступіла пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры ААН. Мэтай правядзеньня базару быў збор сродкаў для дзяцей нашай краіны, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай аварыі. Акрамя таго, беларуская місія хацела яшчэ раз звярнуць увагу міжнароднай супольнасьці, дэлегатаў краін-членаў Арганізацыі і супрацоўнікаў Сакратарыята ААН на трагічныя наступствы найбуйнейшай тэхналагічнай катастрофы стагодзьдзя.

Вельмі прыемна, што высакародныя мэты дабрачыннага базару знайшлі дзейны водгук у беларускай дыяспары, шэрагу місій дзяржаў-членаў ААН, амэрыканскіх грамадзян і кампаніяў.

Шчодрыя ахвяраваньні на чарнобыльскі базар зрабілі Фонд для ахвяраў Чарнобыля Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, сп-р Аляксандар Сільвановіч, сп-р і спня Янка і Надзя Запруднікі, якія даслалі грашовыя ахвяраваньні і перадалі для рэалізацыі на базары вялікую колькасць беларускіх мастацкіх вырабаў і нацыянальных сувэніраў.

У выніку правядзеньня базару, актыўны ўдзел у якім прынялі члены сям'яў супрацоўнікаў прадстаўніцтва Беларусі і супрацоўнікаў Сакратарыяту ААН па беларускай квоце, выручка складае болей за тры тысячы даляраў ЗША. Гэтыя грошы будуць перададзеныя на дапамогу аднаму зь беларускіх дзяцей, які захварэў у выніку чарнобыльскай катастрофы.

Беларуская місія хацела-б праз газэту «Беларус» яшчэ раз падзякаваць нашым беларускім суайчыньнікам за вельмі важкі ўклад у падтрымку гэтай высакароднай справы.

**Аляксандр Сычоў**
**Пасол**
**Пастаянны прадстаўнік**
**Беларусі пры ААН**

## ДЫКТАТАР ЛУКАШЭНКА ПХНЕ Ў МАСКОЎШЧЫНУ, «КАК НАДА»

Уладзімір Арлоў, родам з Полацку, выдатны пісьменьнік, паэт, гісторык, сябра ўправы Беларускага Пэн Цэнтру, узнагароджаны прэміяй Фр. Багушэвіча за манумэнтальную гістарычную працу, кнігу «Таямніцы Полацкай Гісторыі», да нядаўнага часу працаваў у выдавецтве «Мастацкая Літаратура» ў Менску. Дзякуючы ягоным намаганьням выйшлі там кнігі і некаторых замежных беларускіх аўтараў у сэрыі «Галасы Беларускага Замежжа».

У красавіку сп. Арлоў атрымаў зь «вертыкалі» Лукашэнкавай павдамленьне наступнага зьместу:

*«Арлову Уладзіміру Аляксеевічу*

*Даважу да Вашага ведама, што на падставе загада нр. 12 ад 9 красавіка 1997 года ў сувязі з ліквідацыяй рэдакцыі крытыкі і серыйных выданняў Вы будзеце звольнены па скарачэнні штата з 10 чэрвеня 1997 года.*

*Дырэктар выдавецтва [подпіс] Г.В. Марчук»*

Не, не! Гэта ня наша памылка. Мы перадаём дакладны зьмест гэтай пісулькі, дзе Марчук так і піша: «*даважу*».

Нам няведама, тымчасам, каму яшчэ зь перадавой беларускай нацыянальнай адраджэнскай навуковай і творчай грамады вось так «*давозіць*» Марчук ці іншыя «вертыкальныя» пешкі «*на падставе ... загада*», што яны «*звольнены па скарачэнні...*»

Спыняюцца выданьні кнігаў з сэрыяў: «Галасы беларускага замежжа», «Літаратурныя помнікі Беларусі», «Сьвятыя зямлі беларускай», «Зь вякоў мінулых», «Спадчына».

На кнігі такога кшталту грошай у гэтай дзяржавы няма.

Ствараецца вусатая занавеса, каб адгарадзіць народ ад сьвятла й праўды, патрыятызму, веры ў Госпада Бога.

Вусаты дыктатар кіруе «указамі», «как нада».

**А. Акула**

## ФІНАЛ З ДЫПЛЯМАТАМІ Ў НЬЮ ЁРКУ

Як падае амэрыканскі друк, расейскі дыплямат Барыс Абносаў і першы сакратар Місіі ААН Рэспублікі Беларусь Юры Оранж выехалі з ЗША. Афіцыйнае тлумачэньне іх выезду — заканчэньне службовага пабыту ў Амэрыцы.

Аднак, як уважаюць амэрыканскі друк і колы адміністрацыі, выезд гэтых дыплcensus — заключны акорд скандалу у п'яным выглядзе зь нью ёркскай паліцыяй у сьнежні летась ды узбуджаная Нью Ёркам судовая справа супраць гэтых дыпляматаў.

---

Спасаваў ты, як вожык перад сасной.
Не анархіст ты зусім — анархістка.
Закуры, супакойся.

**Грынявіцкі:**
Запалкі забыў.

**Рысакоў:**
Ах ты пень! А зьбіраўся ад бомбы падкурваць!
А яе як запальваць зьбіраўся ты быў?

**Грынявіцкі:**
Беларус — ён такі.

**Рысакоў:**
Заўжды нехта падкурвіць.

**Грынявіцкі:**
Рысакоў, ты пайдзі ў паліцая спытай.
Можа ён чалавек, можа ён не адмовіць.
Ты скажы, што для справы. Хоць ён паліцай,
Хіба ён самахоць нас з табою тут ловіць!

**Рысакоў:**
Пачакай, трэба лепш у народа спытаць.
Хіба ён пашкадуе для ўласнай карысьці?

**Грынявіцкі:**
У народа? Чаго ад народа чакаць?
Ён сам доўга чакаў. Ён ня той, што калісьці.

**Рысакоў:**
Пачакай. Бачыш, вунь пралетарый ідзе.
Пра яго шчэ Міхайла Бакунін узгадваў.
Гэта сьп'яну ці з голаду ён так брыдзе?

**Грынявіцкі:**
Ну, давай-жа, сьмялей падыходзь, не
адкладвай.

**Рысакоў:**
Выбачайце, спадар...

**Пралетар:**
Я таварыш, а ты —
Бачу я, відавочна нацыяналюга.
Зараз будзеш казаць пра сэнс волі сьвяты,
Незалежнасьць і ўсё, да чаго мне так туга
Галавою даходзіць, што лепш прамаўчу.
Толькі ведай: падтрымваць цябе я ня буду.
Я на мове тваёй гаварыць не хачу.
Гэта ўсё непатрэбнае нашаму люду.
Я разумны, хоць жонка і кажа — дурны.
Падмануў мяне цар — больш мяне не
падманеш.
Дам агню — ты ж агонь грамадзянскай вайны
Гэтай самай запалкаю тут жа падпаліш.
Так што дурняў няма, спадарок, выбачай.
Цар, канечне, не цукар, аднак-жа, як бачыш,
Гэта Божая воля. А як іначай
Ты абраньне такога цара растлумачыш?

**Рысакоў:**
Божа-ж Божа, якi тут забіты народ!

**Грынявіцкі:**
Як народ, дык і цар быць павінен забіты.
Гэта я гавару? І ці мой гэта рот?

**Рысакоў:**
Дык ты ўжо надумаўся, браце, глядзі ты!

**Грынявіцкі:**
Зноў ты тонам старэйшага брата? Чакай,
Я й ня тое магу, калі мяне дражняць
Ну, царуга, глядзі, на сябе наракай!
Як для сьмеласьці вып'ю бутэлечку
«Дражні».*
Толькі грошай няма. Што той Захад сабе
Усё думае? Што ніяк не дапаможа?

* Напітак

**Рысакоў:**
Не турбуйся, мы самі ў сваёй барацьбе,
Як дурнымі ня будзем, то выстаім.

**Грынявіцкі:**
Можа.
Мы, здаецца, і так ужо доўга стаім
І нічога ня робім. Агню не здабылі...
А вунь нейкі студэнт. Ты пагутары зь ім.
Можа, родную мову яшчэ не забылі.

**Рысакоў:**
Выбачайце, спадар, Вы-б запалачку мне...

**Шасьцёрка:**
Што, стары, не пазнаў? Ты цара прыйшоў
слухаць?
Так, наш цар, як і Бог, нарадзіўся ў гумне,
Ён прарок, вось таму я і «за». Ты ня супраць?
Я прыхільнік, як ведаеш, дзеі прамой,
Мне што трэба — я прама скажу: трэба грошы,
Ну а цар заўжды рад падзяліцца са мной
За падтрымку маю. Хіба ён не харошы?
Мне, канечне, вядома, дзе ён іх узяў,
І, канечне, ўсё роўна. І трэба зазначыць,
Я сьвядомы падданы і вораг дзьвюх зьяў:
Анархізма й тэрору. Ці нам не адзначыць
Сьвята нашай сустрэчы?

**Рысакоў:**
Не, дзякуй, стары.
Мы з табой зараз надта, відаць, разначынцы.

**Грынявіцкі:**
На такіх, Рысакоў, ён пралез у цары.

**Шасьцёрка (*кажучы Гарадавому*):**
Пане Гарадавы, тыя двое — злачынцы.
Падазрона гавораць. Трымаюць пакет.
Я Вам раю, Вы іх да цара не пушчайце.
І калі-б Вы сказалі цару тэт-а-тэт
пра маю Вам паслугу — лічыў бы за шчасьце!

**Рысакоў (*Гарадавому*):**
Мы з Ігнатам прыйшлі паглядзець на цара.
Ён жа, кажуць, мужчына высокі і мажны.
Праз дзяржаўныя справы згубіў хаера.*
Вось за тым і чакаем яго экіпаж мы.

**Гарадавы:**
Там няма чаго слухаць, глядзець пагатоў.
Йшлі-б вы, хлопцы, дамоў, не марнуючы часу,
А што гэтак мажліва й ня трапіць дамоў.
Якой трасцы займаць тут царовую трасу?

**Рысакоў:**
Грынявіцкі, адыдземся.**Грынявіцкі:**
Ўсе супраць нас,
Ты заўважыў, Мікола? Падрымкі ніякай!
Сьвінапасу патрэбны і цар-сьвінапас.
Пачакай, вунь зь дзядулем ідзі пакалякай.

**Рысакоў:**
Паважаны, запалачкі нам не дасьцё?

**Грынявіцкі:**
На пажар міравой рэвалюцыі трэба.
Хочам бацьку-царя загубіць. Сечацё?**
***(Рысакову)***
Ён куды павалындаўся, гэты нязгрэба?

**Дзядок (*шпарка адыходзячы*):**
Я, сынкі, разумею, а вось памагчы
Не бяруся. Стары ўжо. Касьцюшкаў паплечнік.
Я навучаны вопытам: лепей маўчы
І круціся на сонцы, нібы той сланечнік.
Там дзе цёпла, там добра... Ў Сібіры былі?
Ну, яшчэ пабываеце. Слаўнае месца.
За тайгу мала што прыгажэй на Зямлі.

* Ад анг. hair = валасы
** Разумееце?

## МАГІЛЕЎСКІЯ НАВІНЫ

21-23-га травеня ў Магілеве адбылася Тэатральная асамблея, прысьвечаная 730-м угодкам гораду. Адбываліся спэктаклі народных і абласнога дзяржаўнага тэатраў. 22-га травеня адзіны ў Магілеве беларускамоўны Народны тэатр-студыя пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры В. Ермаловіча прадставіў гледачам прэм'еру «Хто сьмясцца апошнім» паводле К. Крапівы. Асамблея праходзіла па сцэне абласнога тэатру й выклікала вялікае зацікаўленьне гараджанаў. Варта згадаць, што аматарскі беларускі тэатр з Магілеву з посьпехам выступае на многіх сцэнах Беларусі.

24-25-га травеня магілеўцы сьвяткавалі 730-годзьдзе свайго гораду. Напярэдадні сьвята ў цэнтры Магілеву зрабілі касмэтычны рамонт, асфальтавалі дарогі, вывешвалі сьвяточныя гірлянды, растаўлялі сьметніцы й г.д., у выніку чаго цэнтр старажытнага гораду набыў усё-ж такі сьвяточнае аблічча. Сьвята адбывалася паводле сцэнару г.зн. «народнага гуляньня». На вуліцах выступалі музычныя, сьпеўныя, танцавальныя гурты, працавалі мастацкія выставы, ладзіліся конкурсы, шэсьце духавых аркестраў, сьвяточны фейерверк. Выдалася добрае надвор'е. Сьвята атрымалася сапраўды масавае й люднас. Але!... Цэнтр старажытнага Магілёву быў абвешаны лукашыцкімі й чырвонымі сьцягамі. Форма й ідэя сьвята былі савецка-расейскія. Адзінотна сьпяваў па беларуску толькі ансамбль народнай песьні каля музэю В. Бялыніцкага-Бірулі... ды месцамі на вуліцах разьвешаны быў старажытны герб Магілеву з выявай «Пагоні». Арганізатары імпрэзы паклапаціліся, каб пазбавіць праграму выразнага ідэйнага й маральнага зьместу. Па-за ўрачыстасьцямі й забавамі застаўся ўнікальны гістарычны лёс старажытна-беларускага Магілеву. Надзвычай драматычную гісторыю славутага гораду п-над Дняпром знарок прыхавалі ад насельніцтва, звабіўшы яго закусачнымі, духавымі аркестрамі, буфэтамі з моцнымі напоямі й расейскімі забавамі. — Як у лепшыя часы савецка-расейскае акупацыі!

* * *

Адбылося пасяджэньне Ленінскага раённага суду г. Магілеву па абвінавачаньні дзеячаў Магілеўскай гарадзкой арганізацыі БНФ В. Цурпанава ды іншых у парушэньні правапарадку пад час першамайскае дэманстрацыі ў горадзе. Суд адхіліў выстаўленыя раней з боку міліцыі абвінавачаньні. У судзе чакае на разгляд справа па абвінавачаньні В. Цурпанава й С. Абадоўскага ў арганізацыі «Чарнобыльскага шляху-97». Нядаўна старшыня Магілеўскай гарадзкой арганізацыі БНФ Валадар Цурпанаў выступіў з адкрытым лістом начальніку Цэнтральнага раённага адзьдзелу міліцыі палкоўніку А. Цераханву, у якім абвінавацію згаданую ўстанову ў палітычным перасьледзе, процiпраўных дзеяньнях й фальсыфікацыі справаў з боку міліцыі на працягу 1996-97 гадоў. Аўтар лісту гэтаксама зьвярнуўся да пракурора вобласьці з просьбай абараніць яго ад А. Церахава й ягоных падначаленых.

**Падрыхтаваў Юрка В.**

## ПРА НАТАЛЬЛЮ АРСЕНЬНЕВУ

Набліжаецца 28 чэрвеня, дата паломніцтва да Беларускага памятнага Крыжа й манумэнту Памяці ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі. У гэты час бывала, з году ў год, прыяжджала ў Бэры, Канаду, Натальля Арсеньнева, аўтарка гімну «Магутны Божа», які пяе цяпер ня толькі беларускае замежжа, але й уся Беларусь. Прыяжджала Натальля Арсеньнева, аўтарка таксама вершу «Крыж», прысьвечанага высьвячэньню Беларускага памятнага Крыжа ў прошчы ў Канадзе, памагаць рыхтавацца ды браць чынны ўдзел у паломніцтве да беларускага шрайну.

Цяпер, нажаль, нашая Паэтка моцна хворая. Каля году таму назад яна ўпала ды зламала бядро й руку. Ад таго часу яна «прыкаваная» да ложка, або крэсла. Ад таго часу яна страціла й зрок. Ня можа ані чытаць, ані пісаць. Усёй душой яна зьвязана з сваімі прыяцелямі й сябрамі, а ня можа гэтага выразіць. «Фізычныя болі — кажа — я магу пераносіць, найгорай, што духова так цяжка. Чуюся, быццам, я адна на ўсім цалюськім сьвеце».

Аб стане здароўя Паэткі беларусы ЗША й Канады ведаюць, а вось у Беларусі ня ведаюць, прысылаюць ёй лісты, якіх яна ня можа ані прачытаць, ані на іх адказаць. «Найбольш мучыць тое — кажа – што людзі могуць дрэнна зразумець маё маўчаньне, што быццам не хачу нічога месць зь імі супольнага».

Таму Паэтка просіць Рэдакцыю «Беларуса» зьмясьціць гэтую зацемку ў газэце. Просіць аб гэтым таксама і аўтарка гэтых радкоў.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ДАНЧЫК І ЕЎТУХОВЧЫ Ў РЫЧМАНД ГІЛ

У нядзелю 20 красавіка, у залі Грамадзскага Цэнтру пры Царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл адбыўся нязвычайны канцэрт. Пасьля ўжо доўгага перапынку выступіў Данчык перад беларускай публікай із шматлікімі прыхожымі песьнямі й чароўным голасам выканаўца.

У 1:30 папаўдні ў залі сабралося шмат людзей, нават здалёк, каб пачуць Данчыка.

У дапамогу Данчыку згадзіліся браты Еўтуховічы (Аляксей — скрыпка і Зьміцер — піяна) прыняць удзел ды ўразнаячыць праграму. Яны выступілі першымі ды музыкай весялілі прысутных каля паўгадзіны. Прыгожа йгралі!

Перапынак заняла сп-ня Рыма Маленчанка прыгожым дэкламаваньнем вершаў. Выдатна! Цяпер пачаў сьпяваць Данчык, чаго асабліва публіка й чакала. Найменш гадзіну Данчык весяліў людзей і сваім цудоўным голасам і прыгожымі песьнямі: беларускімі, францускімі, гішпанскімі, ангельскімі. Як звычайна Дачык аб'яўляў сам якую песьню ён будзе пець.

Калі прыйшоў канец выступленьня, публіка не хацела растацца з Данчыкам ды просьбамі й намаганьнямі выпрасіла ад яго яшчэ некалькі песьняў. Канец канцэрту выклікаў агульнае задаваленьне і з энтузыязмам людзі дзякавалі Данчыку за яго згоду сяньня парадаваць слухачоў.

Арганізавала імпрэзу Управа Нью Ёрскага Аддзелу БАЗА.

**Васіль Шчэцька**

*Рычмонд Гіл*

---

Пасьля гэткага й тут усё раем здаецца.
Пасьля Вітаўта нешта мне цяжка ўзгадаць
Каго-небудзь вялікага. Звыклі людзі.
А параду запалкі наконт магу даць.
Бачышь, хлопец сядзіць? У яго пэўна будзе.

**Грынявіцкі:**
Во, Мікола, глядзі! Гэта хто там?
Усьміхаецца, смалячы нейкую погань.

**Рысакоў:**
І зусім і ня погань.

**Грынявіцкі:**
Ідзі тады сам;
Так, здалёк намякні, што патрэбны нам вогань.

**Рысакоў (*здалёк*):**
Слухай, дружа!

**Грынявіцкі:**
Дурны, ты ня гэдак здалёк!

**Рысакоў:**
Нейк вельмі падобны ты да анархіста.
Мы тут сочым цара ... разумееш намёк?
Дай запалачкі нам, падпаліць бомбу чыста.

**Хіпі (*зацягваючыся касяком*):**
Дам ад чыстага сэрца. Каб кінуць далі!
Далібог бы патрапіў!

**Грынявіцкі:**
Не, мы лепей самі.
Мы на ўласным жаданьні свой крыж узялі.
Ты яшчэ тут ня бачыў такога, з вусамі?

**Хіпі:**
Ці ня ён гэта едзе?

**Рысакоў:**
Здаецца, што ён.

**Грынявіцкі:**
Зараз будзе як вытрымаць. Будзе прамова.

**Рысакоў:**
Гэта ўсе сабраліся цару на паклон.
Каб паслухаць яго палымянае слова.

**Грынявіцкі:**
Падыходзім бліжэй. Гэтак хочацца чуць,
Як стараецца, бедны. Даволі здаровы!
Вось адгэтуль, здаецца, ня блага шпурнуць.
Аддамо цяпер слых цудадзейству прамовы.

**Цар:**
Дарагіе друзья! Меня можна паняць?
Меня можна паняць, што хачу я вас відзець.
Перэд самай паездкай успел я прыняць...
Да — рашэніе. Я жа ведзь мог вас абідзець,
Еслі б прыбыл і вам не сказал нічэво.
Ведзь такова, вы ж знаеце, і нё бывает,
Я люблю гаварыць для народа свайго.
А народзе цар рэдка кагда забывает.
Ваш язык можна выучыць за адну ноч.
А ешчо гаварат, што он сложный — неправда.
А на нём гаварыць, между прочым, не проч.
І не нада шчытаць, што цар глупый, не нада.
Еслі б был бы я глупый, сядзел бы не здзесь,
а в каком другом месце. Ну ясна, а чом я.
Што, каму-то не ясна? Хочат там паседзець?
Я пайду вам на встрэчу. Інача зачэм я,
Как не выпалніць все пажэланьня людзей?
Я такіх пажэланій вам спісак саставіл.
Чэм вам думаць самім, дык так будзет скарэй.
І не верце, што вас будта кто-та заставіл
Паддзержаць Александра, вас кто-та купіл,
Эта дажэ смешно. Патаму шта всё чэсна,
цар всегда гаварыт, і всегда гаварыл.
Пусць не слушают це, каму не інцерэсна.
Вы жэ знаеце, как мне цяпер цяжело
В этот трудный мамент, істарычаскі в чом та,
Для меня і для вас. Так зачэм жэ назло
Мне і здравому смыслу сядзець мне в печонках?
Гаварыць нету смысла, а чом я гавару,
Ведзь народ не такой і дурак, аказалась,
Он всё відзіт, кагда кто-та мечэт ікру
І савсем не в тот адрас. Мне мала дасталась.
Із-за всех эціх труднасцей прошлай весной,
Із-за вашых валненій? Зачэм валнавацца?
Пусць валнуецца цар. У нево долг такой.
С нім не скора, я думаю, мне расставацца.
Я люблю сваё дзела. І прыбыл есць,
Гаварат незаконна. Когда незаконна,
Вы шчытаеце, значыт, тагда нада сесць,
Абсудзіць эта дзела с умом і спакойна.
Можат, правда, і есць недатoчы у нас,
Можат, этот закон устарэл і не нужэн,
Тагда можна іздаць будзет царскій указ,
Што в законе ашыбачны пункт абнаружэн.
Важна быць заадно, зра не нада галдзець,
Вы паймiце, цару эта толька мешает.
Ведзь на блага людзей он гатов умерэць,
Да здаровье пака ешчо не пазваляет.

***А цяпер, па шматлікіх патрабаваньнях публікі, адбудзецца сьвяточнае, урачыстае забойства цара-бацюшкі, імпэратара Аляксандра Другога.***

**Грынявіцкі:**
Дык твой час надышоў, дарагі Цыцэрон,
Калі трэба, то мы памашчы табе рады.
Каб ня думаў, што ты будзеш вечна царом
Карыстацца сабе з абсалютнае ўлады,
Што ты будзеш заўсёды тлуміць нам мазгі
І пакепваць і зьдзекавацца з нашага брата,
У нас ёсьць яшчэ голас сказаць табе «згінь!»,
У нас ёсьць яшчэ сілы, каб выламаць краты,
У нас ёсьць яшчэ моц на змаганьне й жыцьцё,
Ты хацеў супярэчыць Народнае Волі,
дык сваё атрымай! Гэй, а вы што сьпіцё?
Ці ня той гэта час, каб ускрыкнуць «даволі!»
Ці ня той гэта час, каб спыніць гэты фарс,
Каб у рэшце ўсіх рэшт згінуў жудасны хлус,
Каб згадаць аб Радзіме... Ці ня той гэта час
Каб ускрыкнуць: «Жыве Беларусь!»

***Бомба разрываецца***

*І сакавіка 1881 года бацюшка-цар, імпэратар і самадзержац Александр Вторый міласьцю Божыю помрэ...*

## БЕЛАРУСЬ НА ІНТЭРНЭЦЕ

Зь лістападу 1994 году існуеVirtual Guide to Belarus — праэкт беларускіх навукоўцаў і студэнтаў з розных гарадоў і краінаў сьвету: Нью Ёрку, Каліфорніі, Прагі, Беларусі і т.д. Мэтай яго было і застаецца давесьці да ўсіх зацікаўнеўных, разнастейную інфармацыю пра Беларусь.

Праэт ня мае спонсараў і зьяўляецца прыватнай ініцыятывай ягных аўтараў.

# У ПОШУКАХ ЭМІГРАНЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Нашыя вандроўкі ў пошуках друкаванага слова беларускае эміграцыі на нейкі час перарваліся, аднак праца над даведнікам-бібліяграфіяй не спынялася ды ўжо даходзіць да памыснага заканчэньня. Том пэрыёдыкі налічае панад 400 назоваў, а манаграфічная частка улучае панад чатыры тысячы пазыцыяў. Значная частка гэтага матар'ялу набраная на кампютар. Цяпер мы вышукваем літаральна паасобныя нумары часапісаў, невялічкія брашуркі, праграмы канфэрэнцыяў і падобныя друкі. Увесь час кіруемся прынцыпам, каб чаго не прапусьціць, хоць добра ведаем, што поўных бібліяграфіяў ня бывае!

Раньняй вясной сёлета нашыя вандроўкі аднавіліся. Была нам нагода наведаць даўнюю сяброўку на працы ў Нью Ёркскай бібліятэцы, якая цяпер жыве ў штаце Флярыда. Перад адездам зтэлефанаваліся з д-рам Янам Пятроўскім ды з спадарствам Брылеўскімі. Абодвыя былі згодныя, што мы да іх «падскочым.»

У д-ра Пятроўскага правялі блізу цэлы дзень, дзень працоўны. Перагледзелі ўсе ягоныя публікацыі, удакладнілі даты, мейсцы ягоных выданьняў ды іншыя дэталі ягонае выдавецкае і пісьменьніцкае дзейнасьці. Д-р Пяторўскі нам падараваў пару недастаючых нам публікацыяў.

У спадарства Брылеўскіх, правялі ў іх прыгожым асабняку-вільле колькі гадзінаў нашага апошнягу дню пабыту ў Флярыдзе. Шмат «пабалакалі» успамінаючы мінулыя гады, супольных знаёмых, дэталі раньняга арганізацыйнага беларускага жыцьця (найбольш для удакладненьня англамоўнага выданьня кнігі «Беларусы ў ЗША», якая цяпер у друку). Аднак было ладна часу, каб перагледзець і іх бібліятэку ды архівы. Асабліва каштоўнай для нас была «знаходка» кніжачкі 1921 году выданьня ў Берасьці (для кнігазбораў БІНІМу) «Чаму-ж ты маўчыш кабета сялянская» аўтарства Р.Ш. (Рыгора Шырмы?). Гэтую кніжку спадарства Брылеўскія ласкава ахвяравалі на перахаваньне ў БІНІМ, дапаўняючы чысьленую калекцыю рэдкіх беларускіх кнігадрукаў канца 19 — пачатку 20-га стагодзьдзя. Дарэчы, калекцыя гэтая расьце і будзе зробленая выстава гэтых кніжак.

Вясной мы зьведвалі «нашыя» ваколіцы. Да сп. Даніловіча-Золака, нашага даўгагадовага знаёмага ад восені 1945 году! мы збіраліся наведаццa даўно, але ўсё неяк не выпадала, то яму, то мы былі занятыя. Затое сёлета мы зрабілі да яго некалькі «наездаў». Адзін зь Лявонам Юрэвічам, які вышукоўвае недрукаваныя працы беларускіх эмігранцкіх пісьменьнікаў. Баюся, што сваім інтузіязмам ды перакананасьцю мы сп. Даніловіча стамілі, замучылі. Ня гледзячы на заўвагі гаспадара, што ў яго ўсё ў беспарадку, параскіданае — мы знайшлі сотні эміграцкіх друкаў, архівы, у выдатным парадку ды спраўнасьці: усё удакумэнтаванае, удакладненае, падшытае ў папкі. Тут мы знайшлі шмат недастаючых нумароў розных пэрыёдыкаў і ў выпадку, калі гэта былі дублікаты сп. Даніловіч нам іх падараваў, а ў іншым выпадку мы парабілі кзэра-копіі. Асабліва важна, што мы ўдакладнілі нумэрацыю, шмат якіх часапісаў, выдавецтвы ды выдаўцоў. З манаграфіяў, мы знайшлі ў сп. Даніловіча некалькі цікавых. Прыкладам, «Слоўнічак пазаслоўніковых слоў», сшытак паэзіі аўтара ў дзьюх копіях, некалькі іншых рэдкіх эміграцкіх выданьняў, а таксама колькі кніжак, зь якіх мы зрабілі копіі для калекцыяў БІНІМу. Аналізуючы калекцыю сп-ра Даніловіча, мы прышлі да перакананьня, што гэткія кнігазборы, у спалучэньні з архівам, трэба трымаць разам.

Яшчэ пару заўвагаў, не зьвязаных з падарожжамі. Мы атрымваем стала ад тае ці іншае асобы, сям'і «знойдзеныя» імі ў іхных склепах, падстрэшшах, раньнія эміграцкія друкі. Мы ўдзячныя землякам, што шмат хто тыя друкі нам дасылае. Гэтак мы за мінулыя пару месяцаў атрымалі друкі ад сп. Браніслава Даніловіча, Літвіны Гутырчык, Юзэфы Найдзюк. А вось нядаечы атрымалі вялікі пакунак ад спадарыні Валянціны Кавалсўскай з Парыжу. Яна прыслала ў інстытут рукапісы й друкаваныя творы свайго мужа, плённага драматурга на эміграцыі, нажаль вельмі рана памерлага, Аўгена Кавалеўскага. У ягоным архіве шмат п'есаў, вадэвіляў, праграмаў спэктакляў, ды, для нас вельмі важна, копію падручніка для драматычных студыяў на эміграцыі, 1948 году выданьня. У нас гэтага ня было.

Усім, усім нашым сымпатакам і донарам шчырая падзяка.

**Зора Кіпель**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Сёлета Тыдзень Паняволеных Народаў адзначаецца ад 13 да 20 ліпеня.

Парад у Нью Ёрку адбудзецца 13-га ліпеня, а перад парадам Божая Служба у Катэдры Сьв. Патрыка a гадз. 10-ай.

Заклікаем суродзічаў узяць удзел у гэтай імпрэзе.

**Гор. Управа БАЗА**

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

*Янка Золак. Імя гэтага паэты добра вядома чытачам — і на эміграцыі, і на Беларусі. Выдадзены зборнікі, узгадалі ў дадатковым томе энцыкляпэдыі «Беларускія пісьменьнікі» (праўда, не абыйшлося без памылак. Там чамусьці сьцьвярджаецца, што Янка Золак і Алесь Змагар — браты. Для самога паэты гэта навіна). Але-ж, пагаварыўшы зь ім, пазнаёміўшысь зь ягоным архівам, бачыш, колькі засталося па-за друкам, па-за нашай увагай.*

*Да прыкладу, акрамя самага ведамага псэўданіма — Янка Золак, А. Даніловіч падпісваў свае вершы, эпіграмы, артыкулы й іншымі: Н. Авадзень, З. Ажына, К. Аса, В. Асьцюк, Антось Вірок, Язэп Дольны, М. Залескі, А. Здрок, П. Міранюк, П. Мурашка, Парыцкі, Антось Пясьняр, Я. Цікаўны. Пэўне-ж, гэта ня ўсе!*

*Два тамы, выдадзеныя сваім коштам ва ўласнай друкарні, сьцьвердзілі ў нашай літаратуры паэта. Дарэчы, у гэтай самай друкарні быў набраны «Слоўнічак няслоўнікавых слоў» у 11 экземплярах — першы беларускі слоўнік табуяванай мовы; «Падкашнічак. З нататак пра мову» — назва гаворыць сама за сябе; «За чужы грэх» — зборнічак гумарэсак. Аўтар усіх гэтых кніг таксама А. Даніловіч. І выдаваў ён ня толькі свае творы. У маленькі зборнічак «Зьнічкі Случчыны» увайшлі вершы В. Блакітнага, Л. Гая, М. Шпака, Б. Явара. У друкарні А. Даніловіча пабачылі сьвет вершы Ул. Клішэвіча. А колькі часу было аддадзена на рэдагаваньне часапісу «Беларуская Думка»!*

*Усё свае жыцьё паэта, друкар, выдавец больш спрыяў іншым выданьням, як клапаціўся пра свае. Таму наўрад ці хто ведае, што Янка Золак напісаў таксама фантастычную аповесьць «Віталія» (1984). Невялікі ўрывак зь яе і прапануецца чытачам.*

— Прабачце! — прамовіў я заікаючыся. — Ці ня можаце сказаць мне, куды я папаў? — і несьмела зірнуў мужчыну ў вочы. На маё зьдзіўленьне, на ягоным твары я ня ўбачыў ні ценю зьбянтэжанасьці, а толькі цікавасьць, з якою ён разглядаў мяне. І яшчэ: у ягоных вачох я прачытаў маўклівую просьбу паўтарыць пытаньне.

— Прабачце! — стараючыся гаварыць выразна і павольна, сказаў я. — Я не ведаю, дзе я. Што гэта за краіна?

Мужчына моўчкі палажыў рукі на маё пляча і, пазіраючы мне ў вочы, сказаў:

— А-а-а!.. Я Вас зразумеў... Вы — адтуль — гаварыў ён павольна, нібы прыпамінаючы забытыя словы.

Так, я — адтуль, — адказаў я таксама павольна, думаючы пры гэтым, што пад словам «адтуль» ён разумее бераг, адкуль я трапіў на нейкі абток. — Але я ня ведаю, дзе я. Як называецца гэтая зямля?

— Гэта — Віталія.

— Віталія? — перапытаў я. — Ніколі ня чуў пра такую.

— Нічога дзіўнага, бо яна знаходзіцца ў чацьвёртым вымярэньні, па-за абсягам вашых ведаў, — растлумачыў мой субяседнік.

— У чацьвёртым вымярэньні?! — зьдзівіўся я. — Дак што, хіба я ўжо на Тым Сьвеце?

— Не, не, не пужайцеся! — быў мне адказ. — Вы не на Тым Сьвеце, а толькі ў іншым ад вашага сьвеце.

Толькі цяпер мой субяседнік заўважыў, што я размаўляю зь ім увесь час апушчанымі долу вачамі.

А, — усьміхнуўся ён, быццам чытаючы мае думкі. — Вас бянтэжыць наш выгляд. А ў нас гэта звычайная зьява. У нас усе так ходзяць. Нам не ўласьцівы ваш сорам. Але мы зараз пазбавім Вас ад гэтай няёмкасьці.

Ён зьняў сваю руку з майго пляча і, выцягнуўшы абедзьве рукі перад сабою, ахапіў імі грудзі і сьпіну жанчыны і махнуў рукамі ўніз. У імгненьне вока жанчына была ўбраная ў прыгожую шаўковую сукенку і абутая ў белыя, лёгкія басаножкі. Усьміхнуўшыся, ён сказаў жанчыне некалькі слоў на незразумелай мне мове. Тая прарабіла над ім такую-ж працэдуру, і мужчына аказаўся ўбраным у бялюткую шаўковую кашулю, такі-ж трусікі і белыя сандалі.— Не дзівіцеся! — не даючы мне апамятацца, сказаў ён. — Вы яшчэ ня гэтакае пабачыце.

# НОВЫЯ КНІГІ

**Ян Пятроўскі. Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. Кніга 3. 365 с. Слуцак-Гейсвілъл, 1997.** Мэмуарыстыка на эміграцыі займае ці не найбольш паважнае месца сярод літаратурных жанраў. Яе набытак значны: можна назваць дзесяткі кнігаў, артыкулаў, рукапісаў, дзе насьвятляюцца розныя моманты гісторыі Беларусі XX стагодзьдзя і якія па-сутнасьці ёсьць адзінай крыніцай той інфармацыі, што на бацькаўшчыне здабыць немагчыма. Таму кожная новая кніга ўспамінаў — маленькае сьвята.

Нарэшце пошта прынесла трэці том успамінаў флярыдскага элініста і перакладчыка Яна Пятроўскага. Сваім зьместам ён крыху адрозьніваецца ад папярэдніх двух, бо зьяўляецца аповедам ня столькі пра жыцьцё чалавека, колькі пра жыцьцё ідэяў і кніг. Тут знойдзе для сябе цікавае і гісторык эміграцыі — у згадках пра Юрку Віцьбіча і Ул. Рыжага-Рыжскага, у шматлікім ліставаньні зь дзеячамі на выгнаньні, у публікацыі рэдкіх дакумэнтаў, і дасьледчык творчасьці Яна Пятроўскага, паколькі частку трэцяга тому складаюць артыкулы, друкаваныя нскалі ў часапісе «Сьветач Хрыстовае Навукі». Будзе ў кнізе свой чытач і сярод культуролагаў, якога зацікавяць развагі аўтара пра Грэцыю і філясофію, праблемы перакладу, нататкі пра беларускую і грэцкую мовы. Асобным разьдзелам пададзены водгукі на пераклады Плятона — вытрымкі з артыкулаў, прыватных лістоў, рэцэнзій.

Кніга каштуе $25. Замовіць яе можна ў аўтара, даслаўшы чэк па адрэсу: 1716 N.E. 7th Terrace, Gainesville, Florida 32609. А мы тым часам будзем чакаць на чацьвёрты том.

**Ян Чыквін. Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменьнікі замежжа. Беласток, 201 с. 1997.** Кніга належыць пяру вядомага паэты, філёлага з Беластоку Яну Чыквіну. Зьмест яе складаюць артыкулы пра пісьменьнікаў-эмігрантаў — Натальлю Арсеньневу, Янку Юхнаўца, Масея Сяднёва, Кастуся Акулу, а таксама пра беларускіх пісьменьнікаў у Польшчы — Н. Артымовіч, С. Яновіча, У. Гайдука, М. Шаховіча, Юрку Геніюша. Яшу Бурша. Да ліку эмігрантаў аўтар далучае і Ларысу Геніюш.

Трэба зазначыць, што кніга Я. Чыквіна, напісаная «наркомаўкай», сталася 16-й па ліку ў сэрыі «Белавежа».

## СЬВ. ПАМ. АЛЯКСАНДРА ЧАРНЭЦКАЯ



Нарадзілася мама ў Маскве 26-га лютага 1896 году. У 1918 годзе выйшла замуж за беларуса — Янку Чарнэцкага. У сакавіку 1919 году удалося ім (ужо з малым дзіцём) вярнуцца на татаву Бацькаўшчыну — Беларусь, у мястэчка Ляхавічы, дзе й жылі яны да вайны 1939 году.

Вайной трапілі ў Нямеччыну, працавалі на фабрыцы. Пасьля вайны эміgравалі ў Аўстралію. Там жылі 9 гадоў, ды пераехалі да старэйшай дачкі у Злучаныя Штаты, каб быць разам усёй сям'ёй.

У мінулым годзе ў лютым адзначалі мы ўрачыста 100 гадоў мамы, а 18-га траўня сёлета разьвіталіся зь ёй назаўсёды.

Пакінула мама 2 дачкі-удовы і аднаго сына-лекара, 6 унукаў і 5 праўнукаў. Спадзяёмся, што дзесь у Ўсемагутнага мама спаткае шмат знаёмых-дарагіх і, магчыма, пазнае свайго тату, які быў арыштаваны ў 1938 годзе і закінуў бяз сьледу.

**Ванда Махнач**

## СЬВ. ПАМ. УЛАДЗІМЕР ХАРАВЕЦ



Уладзімер Харавец нарадзіўся 14-га кастрычніка 1921 году ў вёсцы Хваросна, 40 км. на поўдзень ад Пінску. Дома займаўся ён сельскай гаспадаркай ды кавальствам. На эміграцыю сям'я Хараўцоў, чатырох братоў і сястра, выехалі ў 1944-м годзе. Пасьля вайны жылі яны ў беларускім лягеры для бежанцаў у Нямеччыне.

У 1947 годзе Уладзімер жаніўся з Галінай Круцька, а ў 1949 годзе сям'я выехала на сталае жыцьцё ў Злучаныя Штаты Амэрыкі ды пасялілася ў славянскім гарадку Саўт Рывэр, штату Нью-Джэрзі. Ня гледзячы на цяжкасьці новага жыцьця яны, як і іншыя суродзічы, пабудавалі сабе хату ды далі вышэйшую асьвету сваім дзецям.

Сьв. Пам. Уладзімер ды ягоная жонка Галіна сталі аднымі з тых сем'яў, на якіх апіраецца царкоўнае і грамадзкае жыцьцё нашага асяродку ў Нью-Джэрзі. С.п. Уладзімер прысьвячаў шмат свайго часу для Парахвіі Жыровіцкай Божай Маці у Гайланд Парку ды утрыманьня царкоўнай і грамадзкай маемасьці беларускага асяродку.

Сьв. пам. Уладзімер адыйшоў ад нас 16-га красавіка сёлета, на вялікі жаль, у тыдзень, калі нашая калёнія рыхтавалася ўшанаваць 50-годзьдзе яго і яго жонкі сужэнства.

Пакінуў у вялікім смутку жонку Галіну, дачку Анну, сына Аліка ды 6 унукаў і унучак.

**В. Русак**

### Сьв. памяці Янка Сурвілла

памёр пасьля цяжкае і працяглае хваробы. Спачуваньне Івонцы ды сям'і выказваюць сябры з БАЗА і БІНІМу.

### СПРАСТАВАНЬНЕ

У артыкуле «Ахвяра Чарнобыля» (Беларус № 443) па карэтарскаму недагляду выйшла прыкрая памылка. Імя хлопчыка — ахвяры Чарнобыля пададзенае як Ігар Паўлоўскі. Павінна быць **Ігар Паўлавец**.

Просім выбачэньня.

**Рэдакцыя**

### ПАДЗЯКА

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе за прысланыя інфармацыі і газэтныя выразкі: К. Акулу, І. Сурвілла, др-у і В. Рамукам, Г. Шэйпаку, Б. Даніловічу, Ю. Найдзюк, М. Швэдзюку, К. Вераб'ю, Р. Завістовічу, А. Маркевічу, С. Трыгубовічу, А. Міцкевічу, М. Рагулю, Л. Шыманцу, М. Латушкіну, В. Акавітаму, А. Мацукевічу, М. Раецкаму, В. Русаку (Аўстралія), В. Махнач, Я. Калюціку, С. Шаўцову.

### НАПАД НА ЖОНКУ ПАЗЬНЯКА

У Варшаве, 9-га чэрвеня невядомыя асобы напалі на Галіну Вашчанка, жонку Зянона Пазьняка. Як уважае заходня-эўрапэйскі і амэрыканскі друк ды кампэтэнтныя назіральнікі — гэта спроба агентаў таталітарнага рэжыму у Беларусі запалохаць дзейнасьць Пазьняка.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

### Фінансавая справаздача за травень 1997

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| А. Кіпель | ам. дал. 240 |
| М. Ганько | 100 |
| І. і Я. Сурвілла | 100 |
| Б. Русак | 30 |
| Я. Сапежынскі | 30 |

### Прыслана беспасярэдня ў рэдакцыю:

| | |
|---|---|
| В. Рамук (на здымак) | ам. дал. 10 |
| В. Махнач | 100 |
| К. Акула (У памяць Я. Сурвіллы) | 25 |
| В. і З. Кіпель | 50 |
| В. Махнач (сабрана у памяць А. Чарнэцкай) | 120 |
| Сям'я Сенькаў | 50 |

### АСАБІСТАЕ

Ня хочацца верыць, што дажылося, у досыць неспакойныя часы, да 70-і гадовага веку! Што не кажы, век не малады. Але, зноў-ткі, як кажуць, пакуль галава варыць ды рухаешся, няма патрэбы лічыць гады. Заміж перабіраньня ў памяці гадоў ды успамінаў, у меру магчымасьці трэба працаваць і далей, толькі для Беларусі, бо-ж у гэткім веку штадзённыя клопаты жыцьцёвыя зьведзеныя да мінімума.

Атрамалі мы (сям'я Кіпелаў) у сувязі з угодкамі шмат віншаваньняў. Увагай мы былі ушчуленыя і лічым сваім абавязкам падзякаваць асобам, хто праслаў прывітаньні:

Д-ру Янку Запрудніку і Надзі Запруднік, паціддзесяцігадовым блізкім сябром і супрацоўнікам за сымпатычную імпрэзу ды выдатны каляж фатаграфіяў з нашага жыцьця, Таварыству Бацькаўшчына і Саюзу Беларускіх Пісьменьнікаў за наладжаную у Менску вечарыну, сп-ні Галіне Алейнік, Л. Рабок, А. Сіваковай і калектыву з Нацыянальнае Бібліятэкі, д-ру Адаму Мальдзісу, Марыі Міцкевіч, Захару Шыбеку ды сябром з Скарынаўскага Цэнтру за падбадзёрваючыя віншаваньні ды прачулы артыкул у «Кантактах і Дыялёгах», сп-ні Лідзіі Савік за віншавальны, інфармацыйны, бадай генеалягічны артыкул у газэце «Голас Радзімы», нашым блізкім сямейным сябром і супрацоўнікам у Вільні Сяргею і Галіне Шупа, калектыву супрацоўнікаў Радыё Свабода за віншаваньні ды прынагодныя інтэрв'ю, сябром у Віцебску, Глыбокім, Гомелі, Полацку, Горадні, Маскве, Берасьці ды Магілеве. Шчырая падзяка гэтаксама БАЗА, спадару Антону Шукелойцю (ён адзіны, хто ведаў-ведае аж пяць пакаленьняў Кіпеляў-Савёнкаў!), Алесю Міцкевічу і Нью Ёркскаму Аддзелу БАЗА, Каардынацыйнаму Камітэту Беларускіх Арганізацыяў у Канадзе, д-ру Раісе Жук-Грышкевіч, сябром-супрацоўнікам на працягу дзесяцігодзьдзяў Кастусю Акулу, Васілю Шчэцьку (і спадарыні), Міхасю Белямуку (і Тамары) ды Кастусю Калошу, Кастусю Вайцяхоўскаму, Юзі Найдзюк, Каці і Славіку Вініцкім, сп-ву Бартулём, Зоі Смаршчок, Васілю Мельяновічу, М. Латушкіну, Галіне Русак, спадарству Кольба, маладзейшым сябром і супрацоўнікам Анатолю Тальлянскаму, Анатолю Кляшчуку, Сяргею Чыгрыну, Лявону Юрэвічу.

Узрушаныя мы былі шчырым, цёплым лістом-прывітаньнем ад Уладыкі Мітрапаліта Мікалая, а таксама падзяка айцу Васілю Андрэюку ды прыхаджанам парафіі БАПЦ ў Гайлянд Парку. Сяброўская падзяка усім, хто прывітаў нас асабіста. За узьнёслага зьместу юбілейнае прывітаньне ад Беларускага ПЭН Цэнтру у Менску, шчырае дзякуй падпісаным сябром Уладзімеру Арлову, Карласу Шэрману ды Васілю Быкаву.

З глыбокай пашанай і удзячнасьцю

**Кіпелі**

## АД РЭДКАЛЕГІІ Й АДМІНІСТРАЦЫІ ГАЗЭТЫ «БЕЛАРУС»

У рэдакцыю апошнім часам прыходзіць шмат лістоў з запытаньнем чаму, час часом, газэта друкуецца зьменшаным фарматам, толькі на чатыры старонкі?

Робім мы гэта з фінансавых меркаваньняў, а прычыны гэткія:

дзеля ўздаражаньня паперы, падаражаў і друк газэты; павялічылася колькасьць установаў ды чытачоў (пераважна пэнсіянэры), якім газэта высылаецца альбо зусім бясплатна, альбо за мінімальнае ахвяраваньне; рэдакцыя пастанавіла стварыць невялікі фінансавы запас, каб, у выпадку патрэбы мець магчымасьць карыстаць з гэтага запасу, тым балей, што паступова газэта будзе перанятая новым пакаленьнем газэтных і грамадзкіх працаўнікоў.

Карыстаючы з гэтае нагоды, мы зварачаемся да нашых даўгагадовых падпішчыкаў і дабразычліўцаў даць нам цяпер пасільныя ахвяраваньні, каб забясьпечыць і рэгулярны выхад газэты і пабольшаны фармат і стварыць колькі-тысячны фінансавы запас для далейшага друку газэты.

Спадзяемся на Вашыя прыхільныя водгукі ды зразуменьне нашых меркаваньняў.

### На адміністрацыйна-арганізацыйную дзейнасьць Галоўнае Управы БАЗА далі ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпель | ам. дал. 1 200 |
| А. Рамана | 800 |
| К. Акула | 700 |
| К. Рамана | 100 |
| А. Шукелойць | 100 |
| А. Субота | 100 |
| У. Машанскі | 50 |

### На выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ахваравалі сумы

| | |
|---|---|
| І. і Я. Сурвіллы | ам. дал. 150 |
| К. Вайцяхоўскі | 100 |
| К Вініцкая | 50 |
| Ю. Найдзюк | 30 |
| В.і З. Кіпель у памяць блізкога сябры в.п. Янкі Сурвіллы | 100 |
| М. Латушкін | 50 |
| С. Шаўцоў | 18 |